МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

На пляцоўцы аздараўленчага цэнтра "Надзея".

## Праекты з удзелам прадстаўнікоў Германіі запусцілі ў "Надзеі" ў жніўні

ВІЛЕЙКА

**Сумесныя з Германіяй аздараўленчыя праекты ладзяць у цэнтры "Надзея" ад пачатку яе існавання на працягу ўсяго года.**

Не стала выключэннем і гэтае лета.

У Цэнтры арганізавалі тры міжнародныя праекты па аздараўленні дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі.

Ад 11 да 31 жніўня супрацоўнікі Цэнтра запусцілі мерапрыемствы для дзяцей у суправаджэнні бацькоў.

Арганізатар – нямецкі працоўны гуртoк "Жыццё пасля Чарнобыля" з горада Браўнфельс. Удзельнічаюць 20 чалавек. Гэта дзеці з абмежаванымі магчымасцямі з Валожына і Валожынскага раёна.

Ад 16 да 26 жніўня ў Цэнтры працуюць з удзельнікамі аздараўленчага праекта пры падтрымцы ініцыятывы "Дзеці Чарнобыля" з нямецкага горада Мюльхайм на Руры.

Таварыства мае багатую гісторыю. Яно было ўтворана ў 1992 годзе. І з гэтага часу супрацоўнічае з "Надзеяй". Мерапрыемствы, у якім сёлета ўдзельнічае 12 чалавек, ладзяць сумесна з Жодзінскім карэкцыйна-развіваючым цэнтрам навучання і рэабілітацыі.

Трэці праект арганізавала таварыства "Канікулы" з Берліна. Дзеці адпачываюць і папраўляюць здароўе ў суправаджэнні беларускіх валанцёраў.

Разам з бацькамі і валанцёрамі хлопчыкі і дзяўчынкі жывуць ў гасцявых доміках са зручнымі пад'ездамі і пандусамі. Неабходным чынам абсталяваны пакоі і душавыя. Тэрыторыя цэнтра таксама зручная для перамяшчэння інвалідных вазкоў.

Усе трэнажоры ў двары Цэнтра разлічаныя як на звычайных дзяцей, так і на дзяцей з асаблівасцямі ў развіцці. У свой час арэлі, гамакі і іншыя прыстасаванні для адпачынку закупілі ў Германіі і сабралі ў "Надзеі" нямецкія валанцёры.

Пра гэта распавяла спецыяліст па сувязях з грамадскасцю **Таццяна Майсак.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**



## Фестываль культур адбудзецца ў Ракаве 27 жніўня

ВАЛОЖЫН

Сёлетні фестываль культур у Ракаве адбудзецца 27 жніўня. З прыемных сюрпрызаў – выступ гурта "Рэха" і **Андруся Такінданга**.

Акрамя гэтага ў праграме выступ гуртоў з Польшчы і Беларусі, прэзентацыя польскай і беларускай кухні, выставы артыстаў і кірмаш рамесных вырабаў.

Мэта фестывалю – прэзентацыя польскай і беларускай культур.

У міжваенны перыяд побач з Ракавам праходзіла польска-савецкая мяжа. Мястэчка апісаў **Сяргей Пясецкі** ў кнізе "Каханак Вялікай Мядзведзіцы".

Падчас фестывалю будуць прадстаўленыя тэатралізаваныя сцэнкі па матывах прозы Пясецкага.

Можна будзе таксама прайсці апісанай пісьменнікам дарогай кантрабандыстаў і паўдзельнічаць у пошуках схаваных скарбаў.

**Аддзел інфармацыі.**

# Спыняюцца па жаданні пасажыра ці вадзіцеля

МАЛАДЗЕЧНА

**– Спыніцеся, калі ласка, на Магістральнай, – прашу ў кіроўцы маршруткі, што едзе з Мінску. Падрыхтавалася да выхаду і раптам: – Не спынюся, тут няма прыпынку!**

Як так? Упершыню за ўвесь час, што маршруткі ездзяць да Мінску, чую такую навіну. Як няма прыпынку, столькі ж гадоў быў, а тут няма?

Тым часам маршрутка рушыла далей.

Пасля жанчына папрасіла спыніцца на прыпынку каля былога піўзавода. І маршрутка паслухмяна спынілася.

**– Што гэта за навіны?** – пытаюся ў кіроўцы маршруткі **Аляксандра.**

– Нічога не ведаю. Усе пытанні да ДАІ, чаму яны нас штрафуюць на Магістральнай.

Кіроўца патлумачыў, што ДАІ штрафуе за парушэнне правілаў прыпынку. Маўляў, на прыпынку стаяць машыны жыхароў, што жывуць паблізу і атрымоўваецца, што вадзіцель высаджвае пасажыраў у другім радзе. Да таго ж, прыпынак знаходзіцца бліжэй, чым у 50 метрах ад павароту, таму спыняцца там забаронена.

Між тым, у Правілах дарожнага руху пра адлегласць 50 метраў узгадваецца толькі ў дачыненні да чыгуначных пераездаў.

Праглынуўшы крыўду і тое, што цяпер давядзецца дабірацца дамоў з вакзала, выходжу з маршруткі.

Але, раз параілі звярнуцца да ДАІ, значыць, звярнуся.

На тэлефонны званок адказаў намеснік начальніка Маладзечанскай ДАІ **Уладзімір Мумрыкаў:**

– Гэта абсурд! Калі прыпынак абсталяваны, а на Магістральнай ён абсталяваны, вадзіцель можа там спыніцца, не баючыся атрымаць штраф. Наконт таго, што на гэтым прыпынку паркуюць машыны жыхары інтэрната, што знаходзіцца непадалёку, я так адразу адказаць не магу. Разбяромся ў сітуацыі, пасля дам тлумачэнне.

Адказ Уладзіміра Яўгенавіча мне падаўся дастаткова вычарпным, каб напісаць заўвагу ў Кнігу скаргаў і прапанаваў на аўтавакзале.

Скардзілася, вядома, на самаўпраўства вадзіцеля. Літаральна праз паўгадзіны мне патэлефанаваў яго напарнік **Алег.**

Першае пытанне, мякка кажучы, здзівіла:

– А вы перад тым, як сесці ў маршрутку, не пасварыліся з кіроўцам? Ведаеце, кіроўца маршруткі ён жа бог у сваёй машыне, пасварыўся пасажыр з ім, а ён думае, ну, раз так, едзь да вакзала. Тым больш, у нас абазначаныя толькі два прыпынкі: вакзал і 14-я школа. Так што фармальна кіроўца можа не спыняцца.

З кіроўцам я не сварылася. Гэта што атрымоўваецца? Тое, на якім прыпынку вы выйдзеце з маршруткі, залежыць ад настрою кіроўцы? Ад таго, ці спадабаліся яму?

У гэтай маршрутцы вісіць шыльдачка з надпісам: "Мы цэнім ваш час!". Выходзіць, шыльда падманвае, інакш чаму кіроўца не пашкадаваў майго часу?

Кіроўца Алег са мной спрачаецца:

– Мы цэнім час пасажыраў, таму і імкнемся аказваць паслугі браніравання месцаў у маршрутцы. У Мінск ездзяць 12 маршрутак, а пагаджаюцца браніраваць месцы ад сілы пяць кіроўцаў. Таксама бывае крыўдна, калі тэлефануе табе чалавек, які прыйшоў на прыпынак, бачыць чаргу, і кажа: ці можна забраніраваць маршрутку праз 15 хвілін. Ідзем насустрач, браніруем. А потым бачым, як гэты чалавек за 15 хвілін паспеў схадзіць купіць кубачак кавы, і, абмінуўшы доўгую чаргу садзіцца ў маршрутку. "У мяне забраніравана", кажа. І што яму адказаць? І як глядзець у вочы людзям, якія шчыра чакаюць сваёй чаргі?

Аднак вернемся да вуліцы Магістральнай.

Пытаюся ў свайго суразмоўцы:

**– Можа, варта тады папярэджваць пасажыраў, што спыняецеся толькі на вакзале і ля 14-й школы?**

– Вы што? Мы і без гэтага ледзьве вытрымліваем канкурэнцыю з прыватнымі маршрутачнікамі. А калі яшчэ не спыняцца? Вы прабачце маййму напарніку.

**Наталля ТУР.**

**Працяг тэмы чытайце ў наступных нумарах.**



Фота Наталлі ТУР.

Не кіроўцы павінны вырашаць, дзе спыняцца маршруткі.

ГІСТОРЫЯ З ЖЫЦЦЯ

# Прычоска, як у пудзеля, фотаздымак з маляўкай – успаміны пра 1 верасня

**Тое, як збіралася ў першы клас, узгадваю штогод перад 1 верасня, настолькі моцныя былі ўражанні.**

Як і ўсім дзецям, напярэдадні мне купілі новенькі касцюмчык: сіні пінжак, клетчатую спадніčку, белую сарочку і лакіраваныя чаравічкі. Імі асабліва ганарылася і хацела як магу хутчэй надзець.

І вось доўгачаканае 1 верасня – я першакласніца.

Мама пачала збіраць мяне загадзя, каб зрабіць сапраўдную прыгажуню. Пачалі з прычоскі. У мяне тады валасы былі да пояса і завівaліся, але мама вырашыла, што хвалістасці недастаткова, накруціла на тэрмабігудзі.

Усё б можа нічога, аднак валасы паслухмяныя, як пакладзеш, такую форму і набываюць. Вось ім і спадабалася форма бігудзі. Мама цягне, каб раскруціць, а бігудзі і валасы – назад. З плачам і болем раскруцілі палову галавы. А вось некаторыя валасы рашылі не паддавацца. Прыйшлося ўпрошваць з нажніцамі. Так у гэты дзень я атрымала яшчэ і стрыжку. Цяпер валасы былі дастаткова хвалістыя.

І гэта пакуль не бяда, аднак вырашылі, што прыгажуню трэба расчасаць, каб надаць аб'ёму. Лепш бы гэтага не рабілі. Перад люстэркам паўстала Ала Пугачова ці, як смяяўся бацька, пудзель. Я ў слёзы, што вы нарабілі, аднак мама была рашучай. За паўгадзіны да лінейкі мне нанава памылі галаву, і вярнулася прыродная хвалістасць.

Нарэшце надзелі касцюм і доўгачаканыя чаравікі.

У школе мне падабалася, вучыцца я хацела, таму здавалася, што шчасцю не будзе межаў. Аднак не, лёс прынёс яшчэ адзін падарунак.

Я ўжо падрыхтавалася пасля лінейкі, што мяне ўрачыста сфатаграфуюць бацькі. Не тут та было, вырашылі, каб не траціць дарма плёнку, сфатаграфаваць мяне з сястрой, якая была меншая на паўтара года. Абуранню не было межаў: мяне, такую дарослую першакласніцу, ды з гэтай маляўкай дзэтсадаўскай – ні за што. Аднак мае довады не дзейнічалі. Фотаздымак атрымаўся надзвычай удалы: першакласніца з кіслым тварам і задаволеная маляўка.

Цяпер, калі ўзгадваем гэту сітуацыю, смяёмся, а раней было не да смеху.

**Дасылайце ў рэдакцыю свае гісторыі, якім было ваша 1 верасня. Электронная пошта: regionnews @rh.by.**

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

# Быў час, быў дзень, была эпоха...

**Знаёмім чытача з выбранымі фрагментамі ўспамінаў гісторыка Міхаіла Філістовіча, які доўгі час працаваў на Вілейшчыне і Маладзечаншчыне.**
*** Які ты гаспадар, калі авечак не маеш?**
*** Чаму генерал-касманаўт Берагавы на пытанне аўтара ў два пальцы свіснуў?**
**Адказы ў другой частцы ўспамінаў.**


Фота прадастаўлена Міхаілам ФІЛІСТОВІЧАМ.

**Васіль Быкаў дае аўтографы чытачам-маладзечанцам. Трэці справа аўтар успамінаў Міхаіл Філістовіч. Здымак прыблізна 1970-х гадоў.**

**Малдова**

Двойчы давялося быць у гэтай квітнеючай, пявучай, танцуючай, вінаграднай і вінаробчай рэспубліцы.

На адной з першых сустрэч мясцовы кіраўнік, калі даведаўся, што я з Беларусі, з захапленнем сказаў, што быў у Мінску і вельмі здзівіўся, што там людзі на вуліцах усе ходзяць па правілах, чакаюць зялёнага колеру светлафора нават тады, калі няма машын; не тое, што ў нас у Кішынёве!

Прыемна было чуць такое ўражанне. А вось чабана пры сустрэчы я расчараваў адказам на пытанне колькі ў мяне авечак? Што за гаспадар, падумаў, калі не мае іх ніводнай? Пажылы вінадзел са смуткам заўважыў, што раней у малдаваніна хапала ад ураджаю да ўраджаю, яшчэ і задзел заставаўся, а цяпер запасы выпіваюць задоўга да збору новага вінаграду.

З улікам той інфармацыі пра гэту краіну, што час ад часу даходзіць праз радыё і тэлебачанне, часта думаю, як там жывецца музею Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, што сніцца велічнаму на гранітным кані **Грыгорыю Катоўскаму**?

Застаўся толькі адзін шрам на душы, і пакінуў яго "зорка" малдаўскай эстрады **Яўген Дога**. Здарылася гэта ў Маскве ў 1984 годзе, калі ў сталіцы праходзілі дні культуры Малдаўскай ССР. Кіраўнік малдаўскай творчай дэлегацыі намеснік старшыні Савета міністраў, выпускніца Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС, вырашыла зрабіць падарунак сваёй alma mater і наладзіла канцэрт майстроў малдаўскай эстрады ў актавай зале прэстыжнай тады навучальнай установы. Я быў там на месячных курсах перападрыхтоўкі. Ішло ўсё гладка. І вось на сцэне галоўныя фігуры: за піяніна вядомы кампазітар **Яўген Дога** і спявачка **Надзея Чапрага**. Аб'яўлена песня, Чапрага спрабуе першыя ноты і адчувае, што акампанемент не ў яе танальнасці. Просіць маэстра падправіць, але гэта закранула яго самалюбства. У адказ ён уголас гаворыць, што у нас у Малдове ёсць такі звычай: калі адзін скрыпач не можа граць, то яму на замену прыходзіць іншы, хто здолее.

Абураная такой бестактоўнасцю Чапрага пакідае сцэну, а Дога выклікае другую спявачку, і яна выконвае песню. Праз год нечакана на пляжы санаторыя "Беларусь" у Сочы сустрэў Надзею Чапрагу і са спачуваннем падумаў, як яна перанесла такое? Сустракаў і потым. Яна любіла адпачываць у нашай здраўніцы, і зноў падумаў аб тым жа. Можа яна даўно забылася пра той выпадак, хто знае, якія там норавы ў багемным асяроддзі? Толькі ў маіх вачах аўтарытэт Догі ўпаў назаўсёды.

> **Цудоўны край Малдова! Але мой стрыечны брат, які пражыў там амаль усе жыццё, меў свой дом, вінаграднік, кіруючую работу і пахаваны ў Катоўску, казаў заўсёды: калі я раз у год не пабываў у Беларусі, у сваіх бацькоў на Вілейшчыне, у маёй мамы ў Маладзечне, якая, лічы, выхавала яго ў вайну, не наведаў сасновы бор, не паеў "ад пуза" грыбоў, то ў яго не было адпачынку.**

"Разумею цяпер, чаму з выраю журавлі на Палессе ляцяць"...

**"Клімукі"**

Першы раз пабываць у Зорным гарадку пашчасціла ў пачатку лістапада 1980 года. Сакратар парткома Цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў **Пётр Клімук** пажадаў, каб на ўрачыстым сходзе, прысвечаным 63-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, канцэрт далі яго землякі-беларусы.

Выбар паў на народны ансамбль песні і танца імя Ленінскага камсамола Маладзечанская гарадскога дома культуры. Я ўзначальваў дэлегацыю, бо не быў чужаком для гэтага вядомага не толькі ў рэспубліцы калектыва. Сам з восьмага класа танцаваў у самадзейнасці ГДК, з якой потым вырас ансамбль, дзякуючы яго кіраўніку **Іосіфу Фамічу Сушко**.

У прэзідыум паседжання запрасілі сесці і мяне побач з вядомымі, злятаўшымі ўжо ў космас Героямі. Вёў вечар **Георгій Берагавы**, які прадставіў слова для выбрання Ганаровага прэзідыума ў складзе Палітбюро ЦК КПСС на чале з таварышам **Леанідам Ільічом Брэжневым** незнаёмаму мне маёру.

Я здзіўлена спытаў у майго "апекуна": хто? У адказ пачуў: "Хутка даведаецеся. У нас традыцыя: тых, хто ў бліжэйшы час паляціць, пацыху прывучаюць да трыбуны. Выступаць жа прыдзецца многа!"

Праз месяц па тэлевізару ў паведамленні аб чарговым запуску савецкіх касманаўтаў я пазнаў маёра – то быў **Леанід Кізім**. Зрабілі ўражанне нефармальныя адносіны касманаўтаў. Калі я спытаў у Берагавога, якім чынам атрымаць аўтографы касманаўтаў на праграме канцэрта, той, не доўга думаючы, свіснуў у два пальцы, і збор быў забяспечаны. **Юрый Раманенка** тады падаў мне добры ўрок: калі хочыш аўтограф, то разам з паперай, прапануй і ручку. Усё правільна: не трэба такіх людзей турбаваць, каб яны капашыліся ў кішэнях у яе пошуку. Там жа на вечары мне ўручылі медаль у гонар хуткага 20-годдзя першага палёту чалавека ў космас. І медаль, і праграму з аўтографамі берагу як вельмі каштоўную рэліквію.

Другі раз у Зорным гарадку пабываў у 1990 годзе ў складзе экскурсіі, якую наладзіла для слухачоў Акадэмія грамадскіх навук. Нам паказалі ўсю "паднагогную" падрыхтоўкі касманаўтаў. Самая небяспечная для іх цэнтрыфуга, праз якую, як "тэхагляд", праходзяць кожны год. На якія хітрыкі толькі не ідуць, каб не "заваліцца". Некаторыя спрабуюць смяяцца ўвесь час, другія, наадварот, робяць вельмі сур'ёзны выгляд. Казалі, што лепш іншых праходзіць гэта выпрабаванне касманаўт Быкоўскі. Спачуваю аднаму высакакласнаму летчыку звышгукавой авіяцыі, у якога было ўсё, каб здзейсніласа мара быць залічаным у атрад касманатаў. Бачыў у фармаце відэазапісу як мужна ён трымаўся на выпрабаванні на гэтай "круцёлцы", але праз некалькі хвілін усё ж страціў прытомнасць. Не прайшоў не толькі ў касманаўты, спісалі і з авіяцыі.

У асобным памяшканні сабраны апаленыя пасля звароту з космасу капсулы. Есць і касмічная звязка "Саюз" - "Апалон". Вось толькі наш "шарык" выглядае супраць амерыканскага цыліндра як "хрушчоўка" у параўнанні з сучаснай кватэрай. Што ні кажы: прывыклі да камфорту заакіянцы. У музеі Юрыя Гагарына звярнуў увагу на яго службовы пропуск з чырвонымі літарамі наўскасяк: "ВЕЗДЕ", вадзіцельскае пасведчанне з талонам, прабітым дзіркай за перавышэнне хуткасці, і англійскі аўтамабільны нумар 00-01, прэзентаваны каралевай Вялікабрытаніі. Казалі, што пасля сустрэчы з першым касманаўтам ёй прышлося апраўдвацца ў парламенце за тое, што парушыла правілы паводзін: устала з трону пры ўваходзе **Юрыя Гагарына**. Вырвучыў знаходлівы адказ каранаванай асобы: "Я ўстала перад незямным чалавекам!" А такая сітуацыя ў рэгламенце не была прадугледжана.

А "клімукамі" абагулена завуць у Зорным касманаўтаў, чый рост як у Клімука. І такіх большасць, што зразумела: меншы рост – больш месца ў касмічным караблі, і, адпаведна, меншая вага. Там кожны грам на ўліку!

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**Чытайце ў працягу:**
*** Чаму ў літоўскіх крамах былі кілбасы, а ў нашых днём з агнём не знойдзеш.**
*** Як беларускія партыйцы перапець Краўчукову каманду не здолелі.**

Пра аўтара. Міхаіл Філістовіч, кандыдат гістарычных навук. Нарадзіўся ў 1940 годзе у в. Рэдзькавічы на Вілейшчыне. У 1963-1982 гг. працаваў у адукацыі і парторганах Вілейшчыны, Маладзечнашчыны. У 1989-1991 гг. – інструктар, загадчык сектара ЦК КПБ. З 1995 г. – у вышэйшых кантрольных органах Беларусі. Жыве ў Мінску.

● КАЛЯНДАР

26 ЖНІЎНЯ

**У 1933 годзе** Савет народных камісараў БССР прыняў пастанову "Пра змены і спрашчэнне беларускага правапісу". Яна ўводзіла збор правілаў граматыкі, якія дзейнічалі да 1959 года. Пастанове папярэднічаў акадэмічны праект 1933 года, які не задаволіў савецкае кіраўніцтва памяркоўнасцю ў набліжэнні беларускай мовы да рускай. Таму арганізавалі Палітычную камісію для стварэння новых правілаў, у якую не ўвайшоў ніводны лінгвіст, а пераважна палітыкі. Некалькі ўзораў, як змяніўся правапіс пасля 1933 года: "маналёг" стаў "маналогам", замест "цэнтар" – "цэнтр", "сьвет" сталі пісаць як "свет", "жыцьцё" – як "жыццё".

**У 1880 годзе** нарадзіўся французскі паэт **Гіём Апалінэр**, чый дзед паходзіў з Астравеччыны.

27 ЖНІЎНЯ

**120 год** таму нарадзілася савецкая актрыса беларуска-яўрэйскага паходжання **Фаіна Ранеўская**, вядомая і бліскучым талентам, і трапнымі цытатамі. Напрыклад: "Калі хворы вельмі хоча жыць, дактары бяссільныя", "Сям'я замяняе ўсё. Таму, перш чым яе завесці, хораша падумайце, што вам важней: усё ці сям'я".

28 ЖНІЎНЯ

**У 1963** годзе амерыканскі прапаведнік **Марцін Лютэр Кінг** выступіў з прамовай "У мяне ёсць мара", якую амерыканская супольнасць аратарскага мастацтва прызнала лепшай у 20-м стагоддзі. Выступ стаў найважнейшым момантам руху за грамадзянскія правы, які меў на мэце дамагчыся расавай роўнасці.

29 ЖНІЎНЯ

260 год таму нарадзіўся **Ян Снядэцкі** – астраном, матэматык, філосаф, прафесар і рэктар Віленскага ўніверсітэта. Галоўнай працай стала біяграфія **Мікалая Каперніка**. Пры ім універсітэт выйшаў на еўрапейскі ўзровень навукі.

30 ЖНІЎНЯ

**У 1912 годзе** нарадзілася брытанскі агент Французскага супраціўлення Другой сусветнай вайны **Нэнсі Уэйк**. У 1943 годзе была чалавекам, якога больш за ўсіх імкнулася знайсці гестапа. Мае найбольш узнагарод сярод жанчынсалдатаў армій Саюзнікаў.

31 ЖНІЎНЯ

**У 1449 годзе** падпісалі дагавор пра вечны мір Вялікае княства Літоўскае і Вялікае княства Маскоўскае.

1 ВЕРАСНЯ

**Дзень ведаў.**

**Аддзел інфармацыі.**

# Як паляпшаюць здароўе і паводзіны ў летніку "Ратнік"

ВІЛЕЙКА

**Як у час летніх канікул "адцягнуць" дзіця ад камп'ютара і захапіць карыснымі справамі? Як засцерагчы падлеткаў ад правапарушэнняў? Як умацаваць дзіцячае здароўе?**

Гэтыя пытанні вырашаюць педагогі з абаронча-спартыўнага летніка "Ратнік".

Ужо другі год ён працуе на базе "Лясной казкі". Летнік знаходзіцца ў лесе ля вёскі Гліннае. Аздараўленне школьнікаў пачынаецца са свежага хваёвага паветра.

Планавалі, што ў летніку будуць адпачываць дзеці, якія стаяць на розных відах уліку, хлопцы і дзяўчаты, што апынуліся ў няпростых жыццёвых абставінах. Летась адпачывалі дзеці-сіроты з вілейскага каледжа.

Аднак цяпер, па словах дырэктара летніка **Ірыны Рэут,** сюды прымаюць не толькі дзяцей з гэтых катэгорый.

### Спорт і псіхалогія – у дапамогу дзецям

Трапіць сюды могуць хлопчыкі і дзяўчынкі толькі з першай групай здароўя. А ў гэтай змене адныя хлопчыкі.

Вялікая ўвага надаецца заняткам фізічнай культуры і спартыўным гульням. У такім летніку заўсёды напружаная праца ў кіраўніка фізічнага выхавання.

Як падбіраюць іншых выхавацеляў у "Ратнік"? Асаблівых патрабаванняў няма. Але вітаецца, кажа дырэктар, калі ў кагосьці з педагогаў ёсць псіхалагічная адукацыя.

У лагеры ёсць частка дзяцей, якія стаяць на ўліку ў школе або інспекцыі. А дзіця не проста так здзяйсняе правапарушэнне, упэўненая дырэктар. Значыць, ёсць праблемы.

І тут без прафесійнай дапамогі – ніяк. Ірына Рэут – сама псіхолаг па адукацыі. У першай змене выхавацелем працавала псіхолаг з Ільі **Алеся Сэсарава.** З дзецьмі праводзілі трэнінгі, гутаркі.

– Мы стараемся размаўляць "на іх мове". Не навязваем тэмы, не чытаем лекцыі, – кажа дырэктар.

Асаблівых праблем з дзецьмі не ўзнікае. Так, яны паказваюць часам свой характар. Не хочуць падпарадкоўвацца вызначаным правілам. Але гэта, па словах Ірыны Рэут, уласціва любому дзіцяці. Некаторыя ва ўмовах летніка "адкрываюцца" з лепшага боку. І тым самым здзіўляюць бацькоў і педагогаў.

**Блізкасць лесу і ракі не палохае выхавацеляў. Кажуць, за два гады не было выпадкаў, каб дзеці самавольна траплялі за агароджу.**

А вось чужыя людзі часам хочуць паўдзельнічаць у забаўляльных мерапрыемствах. Аднойчы на беразе Віліі адпачывала кампанія моладзі. Пачуўшы, што вечарам у летніку пачалася дыскатэка, маладыя людзі спрабавалі пералезці праз агароджу.

Змены ў "Ратніку" па дзевяць дзён. Але некаторым з дзяцей гэтага часу мала. Яны пасля першай змены застаюцца на другую. Так зрабіў віляйчанін **Ілля**. Ён лічыць, што ў горадзе летам сумна. А ў летніку – сябры, гульні, мерапрыемствы.

### Дзень курсанта: у тумбачках – парадак, за брыдкаслоўе – штраф

А праграма тут і сапраўды насычаная. Кожны дзень у лагеры мае нейкую тэму. У першы дзень зладзілі аперацыю "Утульнасць": засяліліся ў домікі, прыбіралі іх. На дзень краязнаўца хлопцы ездзілі на экскурсію па памятных мясцінах Вілейшчыны.

У дзень дапрызыўніка з хлопчыкамі сустрэўся ваенком Вілейскага раёна **Юрый Ганчыеўскі.** Ладзілі сустрэчы з супрацоўнікамі інспекцыі па справах непаўналетніх.

Дзень індзейца прайшоў з эстафетамі, гульнямі, расфарбоўкай твараў і спевамі пад гітару.

А 22 жніўня хлопцы праводзілі па распарадку дзень курсанта. Пад'ём – у 7:30. Сем хвілін, каб апрануцца і прыбраць ложак. А ў 7:37 ужо пачалі ранішнюю зарадку.

На гэты дзень атрады сталі ротамі. А замест выхавальнікаў былі амаль сапраўдныя камандзіры: курсант Магілёўскага інстытута МУС, радавы **Павел Рубянкоў** і курсант Інстытута пагранічнай службы **Віталь Лапшын**. Курсанты – віляйчане. А Віталь 12-гадовым хлопчыкам сам адпачываў у "Лясной казцы". Нават у тым самым доміку, дзе цяпер жывуць яго выхавальнікі.

Пад кіраўніцтвам камандзіраў хлопцы прыбіралі ложкі, акуратна складалі асабістыя рэчы ў тумбачках, гулялі ў валейбол, футбол. Пасля чыталі мясцовыя газеты і вайсковыя часопісы, малявалі баявыя лісткі. На палітінфармацыі знаёміліся з гісторыяй Вілейкі.

Бліжэй да абеду ўсіх даймае стома.

– Яшчэ не вечар, – кажа з усмешкай камандзір.

Пасля дзённага сну "Ратнік" чакае тактычная падрыхтоўка. Хлопчыкі будуць вучыцца арыентавацца і маскіравацца на мясцовасці, пазнаваць сляды на пяску.

За брыдкаслоўе – штраф дзесяць адцісканняў. Па словах камандзіра, вінаватыя адразу пачынаюць адцiскацца самі, не чакаючы загаду.

Дыскатэкі ў вайсковым няма. Таму вечар летнік праўдзе не на танцпляцоўцы, а ў клубе за праглядам фільма "Брэсцкая крэпасць".

Па словах Ірыны Рэут, курсанты актыўна супрацоўнічаюць з лагерам.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Хлопцы з "Ратніка".



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Васіль Гулецкі і Святлана Спадар выпрабоўваюць пнеўматычную стрэльбу перад тым, як даць яе дзецям.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

У сталовай.

Пачалося ўсё летась па ініцыятыве інспектара па справах непаўналетніх **Алены Дубовік.** Хлопцы прыехалі тады на сустрэчу з дзецьмі. Расказалі пра вучобу, жыццё ў казарме. І пачалі сябраваць з "Ратнікам".

У пачатку верасня курсантам накіруюць пісьмы-падзякі ў іх установы адукацыі.

### Розныя ўзросты – не падстава для спрэчак

"Ратнік" супрацоўнічае з рознымі арганізацыямі раёна: інспекцыяй па справах непаўналетніх, Вілейскай выратавальнай станцыяй, таварыствам спрыяння арміі і флоту. Выхоўваць трэба з розных бакоў, лічыць Ірына Рэут. Некаторых дзяцей выхавацелі вучаць тым рэчам, якім павінны былі навучыць бацькі.

Дзяцей у летніку мала, таму ўсе аб'яднаныя ў адзін атрад. Калектыў атрымліваецца рознаўзроставы. Старэйшаму Іллю – 15 год. Малодшаму **Данілу** – 10. Канфліктаў на гэтай падставе не ўзнікае. Хлопчыкі прывыклі, што ў летніку яны – каманда. Заўсёды дзеляцца гасцінцамі, што прывозяць родныя.

Кормяць у летніку вельмі добра – пяць разоў на дзень. Але бацькоўскіх прысмакаў дзеці заўсёды чакаюць.

Праводзілі мяне хлопчыкі, расчырванелыя ад сонца і гульні ў футбол.

– А вы ўжо прыдумалі, які артыкул пра нас напішаце? – спыталі яны.

– І спасылку "У кантакт" скіньце, калі ласка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




# Чаму буслы выкідалі сёлета з гнязда яйкі і птушанят

Буслам у Раманаўшчыне напэўна, менавіта таму, што тут так многа гэтых птушак, і даводзіцца частку патомства выкідаць з гнязда.

ВАЛОЖЫН

**На цэнтральнай вуліцы вёскі Раманаўшчына, што каля Дораў, буслiныя гнёзды амаль на кожным слупе. І ў гэтыя выхадныя вяскоўцы збіраюцца праводзіць птушак, якія за лета становяцца часткай іх жыцця, у вырай.**

У Раманаўшчыне пераважна жывуць дачнікі. Некаторыя кажуць: “Буслы прылятаюць – і я прыязджаю. А як яны адлятаюць – таксама з’язджаю ў горад”. У агародах тут не знойдзеш ні жаб, ні змей – кажуць, іх паелі буслы. “Стаіш у агародзе, а яны, нібы дыназаўры, проста над галавой пралятаюць”, – распавядае **Яўген**, які прыязджае ў Раманаўшчыну з Маладзечна дзеля агарода двойчы на тыдзень. Ён і падзяліўся назіраннем, што сёлета буслы выкідалі з гнязда яйкі, а некаторыя кажуць, што гэта абяцае галодны год.

Насупраць двара **Таісы** і **Уладзіміра Марозаў** скошаны ўчастак поля. Гаспадары адзначаюць, што самі косяць, а вялікая тэрыторыя зарасла пустазеллем. Раней і касіць патрэбы не было, усё з’ядалі каровы і коні, а цяпер трымаць іх няма каму. Сям’я прыязджае з Мінска ў дом, адкуль родам мама Таісы.

Каля Марозаў пустое гняздо, кажуць, з раніцы не было птушак. Дарослая пара выгадавала адно птушаня.

– А адно яйка з гнязда выкінулі, я знайшоў, – прыгадвае Уладзімір. – Памерам недзе з гусінае будзе. Пэўна адчувалі, што не пратрымаюцца ўсе.

**Оля Раманоўская** і **Тамара Петухова** – пенсіянеркі, родам з Раманаўшчыны. Кажуць, што ў вёсцы “абітаюць як буслы – калі цёпла”. На выхадных 27-28 жніўня, якраз калі свята Успенне, збіраюцца праважаць буслоў. А пасля іх і самі будуць збірацца ў горад.

– Летась я плакала, калі праводзіла іх, – прыгадвае Тамара. – Тры кругі яны праляцелі над вёскай, мы рукой ім памахалі. Мне нават падалося, што і яны плакалі. Сумую без іх. Як яны ў вырай, то і я паеду з вёскі. У нас жа буслы на кожным слупе. І праўда, што сёлета выкідвалі з гнязда птушанят. Можа, гэта хворыя былі, што не выжылі б.

Жанчына заўважае, што ў Раманаўшчыне не заўсёды было так шмат буслоў, толькі гадоў з 15. За гэты час і людзі, і буслы прывыклі адзін да аднаго. Птушкі ходзяць па агародзе, пакуль гаспадыня працуе, і ніхто нікому не замінае.

– У нас усе любяць буслоў, – гаворыць жыхарка. – І ім пэўна добра: тут рачулка, ціха, дарогі блізка няма, ежы хапае. І нам весялей.

Тое, што буслы добрыя суседзі, мясцовыя яшчэ лепш зразумелі, калі каля пяці год таму ў вёсцы з’явіліся бабры. І калі першы год дзіковінка была цікавай, на наступны жахары схапіліся за галаву.

– Неяк ужо цёмна было, чую, нехта дровы сячэ, – прыгадвае Тамара. – Ну, думаю, нішто сабе, і не цёмна ж табе. А раніцу выходжу – дзве алешыны ляжаць.

Жыхары заўважаюць, што бабры не толькі дрэвы і кусты шкодзяць, але і рачулку. У ей цячэ крынічная вада, а бабры ладзяць з дрэваў дамбы, якія пасля і людзям няпроста разбіраць.

І калі аднаму суседу, бабрам, жыхары Раманаўшчыны зусім не рады, па другіх, буслах, яны будуць сумаваць ужо тады, калі на гэтых выхадных яны ўздымуцца на свае тры развітальныя кругі перад дарогай у вырай.

**Каментар спецыяліста**

Сітуацыю з буслямі ў Раманаўшчыне пракаментаваў спецыяліст па прыродаахоўных пытаннях грамадскага аб’яднання “Ахова птушак Бацькаўшчыны” **Сямён Левы**:

– Тое, што буслы выкідаюць яйкі ці буслянят, сапраўды здараецца. Гэтыя птушкі валодаюць прыроджанай здольнасцю спрагназаваць, якую колькасць корму змогуць здабыць для птушанят. Калі ў іх тры яйкі, а яны адчуваюць, што пракормяць толькі дваіх, кагосьці аднаго выкідаюць з гнязда.

У буслоў жа вельмі моцны інстынкт выхажвання птушанят, захавання патомства.

**Вялікая загадка, як яны выбіраюць таго, каго даводзіцца выкідаць. Мне вельмі цікава, як у іх адбываецца гэты выбар. Не ведаю, ці адчуваюць яны штосьці, магу толькі ўявіць, як гэта: барацьба паміж інстынктам абароны патомства і разуменнем, што ўсіх пракарміць не зможаш.**

Мяркую, што патрэба выкідаць птушанят залежыць не ад агульнай сітуацыі, а ад становішча ў мясцовасці, якую яны насяляюць.

Большасць буслоў ляціць у вырай у 20-х чыслах жніўня. Але ёсць тыя, хто застаецца. У іх ліку могуць быць птушкі з позніх вывадкаў. І ў час адлёту яны недастаткова дужыя, каб пераадолець такую дарогу. А ўлічваючы, што нашы буслы дасягаюць Паўднёвай афрыканскай рэспублікі, і шлях іх поўны небяспекі, цалкам зразумела, чаму самыя маладыя не спяшаюцца з адлётам.

Яны застаюцца на некалькі месяцаў, пакуль крылы не стануць дужымі. Але ёсць сярод тых, хто не паляцеў у вырай у жніўні такія буслы, якія знешне зусім не выглядаюць недастаткова дужымі. Часам мы адзначаем, што яны знаходзяць месцы з больш высокай тэмпературай, адшукваюць ежу, і застаюцца ў Беларусі.

Наогул буслоў прыцягваюць мясцовасці, дзе ёсць месцы пад гнёзды, і хапае пляцовак для палявання. Паляванне нават больш важкі аргумент пры выбары месца, дзе яны асядаюць. Часам буслы вяртаюцца налета ў свае ж гнёзды, а могуць засяліць чужыя.

Мы адзначылі, што у 2014-2015 годзе ў некаторых мясцовасцях Беларусі колькасць буслоў узрасла.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

НАВІНЫ

## Маладзечанцы сабралі ўзнагароды ў конным спорце

МАЛАДЗЕЧНА

Спаборніцтвы па конным спорце прымалі Палачаны на мінулым тыдні.

Пра вынікі для маладзечанскіх вершнікаў паведаміла дырэктар дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы №2 Маладзечанскага райвыканкама **Наталля Шаліма**.

Алімпійскія дні моладзі па пераадольванні перашкод для спартсменаў 1999-2000 гадоў нараджэння прайшлі 18-21 чэрвеня.

**Веста Высоцкая**, 2000 года нараджэння, з першым спартыўным разрадам на кані Каспер заняла трэцяе месца з вышынёй бар'ера да 110 сантыметраў і да 130 сантыметраў, а таксама ўзяла першае месца каманднага кубка другога гіта да 120 сантыметраў.

У адкрытых рэспубліканскіх спаборніцтвах сярод спартсменаў на конях ад шасці год і старэйшых месцы размеркаваліся наступным чынам.

Майстар спорту **Арцём Пірог** на кані Ліберал заняў трэцяе месца з вышынёй да 125 сантыметраў у спаборніцтве ў дзве фазы. Другія месцы ён заваяваў, узяўшы вышыні да 130 і да 135 сантыметраў.

Сярод спартыўных пар з 5-6-гадовымі конямі перамагла кандыдат у майстры спорту **Святлана Дземеш** на кані па мянушцы Азбука. Яна ўзяла першыя месцы на вышынях да 100 і да 115 сантыметраў.

Веста Высоцкая на кані Рэфлекс атрымала другое месца з вышынёй да 110 сантыметраў.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ".** Гіт – у конным спорце гэта спаборніцтва, якое ўключае два маршруты. Дзве фазы – спаборніцтвы, якія праходзяць без перапынку, лінія фінішу для першай фазы становіцца лініяй старту для другой.

## Сухая нічыя і безліч жоўтых картак

МАЛАДЗЕЧНА

"Іслач" унічыю сыграла з Віцебскам – 0:0. Матч адбыўся на гарадскім стадыёне ў нядзелю, 21 чэрвеня.

З першых хвілін матчу на полі было шмат адзінаборстваў, як з аднаго боку, так і з другога, якія адразу ж "гасіліся" суддзёй жоўтымі карткамі.

Але перавага была на баку "Іслачы".

Падначаленыя **Віталя Жукоўскага** часцей кантралявалі мяч, уцякалі ў контратаку, але ў завяршальнай стадыі праявіць сябе не змаглі.

Можна ўспомніць добры момант у другім тайме ў **Івана Дзенісевіча**, які стварыў дэбютант "ваўкоў" **Генадзь Блізнюк.** З левага фланга нападаючы зрабіў дакладную верхавую перадачу на далёкі штанг, які, на жаль, не замкнуў Дзенісевіч. Ударам галавой Іван праслаў мяч крыху вышэй перакладзіны.

Сам Іван гэты момант пракаментаваў наступным чынам:

– Матч атрымаўся цяжкім. У кожнай гульні не атрымліваецца лёгкіх перамог або бязвольных паражэнняў. Гульня з "Віцебскам" была не відовішчнай, але баявой. Было шмат жоўтых картак – ніхто не хацеў саступаць. Мы стараліся выйграць, але, на жаль, не атрымалася. Сёння ледзь-ледзь не хапіла. Мы сур'ёзна рыхтаваліся да гэтага матча. Было бачна, што "Віцебск" асцярожнічаў у некаторых момантах, мы таксама асабліва не рызыкавалі. На мой погляд, гульня была да гола. Асабіста ў мяне было тры вельмі добрыя моманты, дзе я абавязаны быў забіваць, але, мабыць, не хапіла выканаўчыцкага майстэрства. Крыўдна, вядома, застаўся асадак. Нічога, прыйдзецца папрацаваць на трэніроўках над гэтым кампанентам. Думаю, што ўжо ў наступнай гульні мне ўдасца забіць.

У пасляматчавай прэс-канферэнцыі галоўны трэнер "Іслачы" **Віталь Жукоўскі** расказаў, што каманда з Віцебска спадабалася яму яшчэ ў першай гульні:

– Каманда без зорак, але вельмі роўная, вельмі мала прапускае. Паводле маёй інфармацыі "Віцебск" не прапусціў ніводнага гола са стандарту. Гэта сведчыць пра многае, усё ж такі ў беларускім чэмпіянаце вельмі шмат рыхтуюцца да стандартных палажэнняў. Была пара момантаў, якія трэба было, вядома, завяршаць. Столькі картак было! Вы ведаеце, мне здаецца, што грубай гульні не было ўвогуле, і сапернікі ставіліся паважліва адзін да аднаго на футбольным полі. Але такое багацце картак – я крыху не згодны з гэтым. Усё ж такі цяпер ідзе другі круг, і хлопцы будуць шмат прапускаць з-за гэтых картак. Яны адаб'юцца ў наступных гульнях. А так, у прынцыпе, тое, што майгралі – тое і атрымалі.

Наступную дамашнюю гульню "ваўкі" згуляюць 9 верасня. Сапернікамі "Іслачы" стане футбольны клуб "Мінск".

**Наталля ТУР.**
**паводле fcisloch.by.**

# Адчуваю сябе амазонкай і крыху адбіўной

## Дзяўчаты зладзілі конны паход

МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН

**Калі арганізатар задумала такое падарожжа, то і не думала, што яе кампаньёнамі стануць адны дзяўчаты. Пакуль яны праходзілі складанасці коннага паходу, іх мужчыны ехалі на начлег машынамі, каб згатаваць шашлыкі.**



Фота забяспечана Аленай БЕЛАВУС.

Падчас вандроўкі галоўным быў камфорт коней.

Конны паход у 82 кіламетры пераадолелі пяцёра дзяўчат разам з інструктарам таварыства "Палачаны" **Аленай Белавус** 20 і 21 чэрвеня.

"Адчуваю сябе амазонкай і крыху адбіўной", "Усведамленне крутасці таго, што адбылося, прыйшло толькі сёння, учора ж пад канец паходу ў жывых засталіся толькі рэфлексы і поўнае здзіўленне ад таго, што мы зрабілі!

> **Кволыя дзяўчаты! 80 км! 15 гадзін у сядле. Коні нашы рыссю гоняць так, што у вушах свішча. Эмоцыі зашкальваюць, хаця было складана фізічна. У кожнай вёсцы сустракалі так, быццам мы неслі алімпійскі агонь"**

– дзеліцца ўражаннямі адна з удзельніц паходу **Вікторыя Шчуроўская**.

Арганізаваць конны паход узяла на сябе смеласць інструктар па верхавой яздзе таварыства "Палачаны" Алена Белавус. Трэнер устаноў **Уладзімір Пятроў** часта распавядаў пра сваю бурную маладосць, калі разам з сябрамі хадзіў у конныя паходы на 10, а то і на 14 дзён. Алена адразу за такі маштаб не ўзялася, вырашыла пачаць з двухдзённай прыгоды.

Трэнер падказаў, якім павінен быць рэжым для жывёл. У такім паходзе галоўнае – камфорт каня. Хаця пераадолець 40 кіламетраў за дзень не так і складана для трэніраванага каня, дзяўчаты ўсяк імкнуліся аблегчыць задачу сваім спадарожніцам. Таму бралі з сабой каларыйны корм, каб у жывёл хапала сіл, паілі іх колькі трэба, а месцамі ішлі пешшу, каб не перагружаць.

Калі Алена пачала збіраць групу для паходу, не ведала, што ў камандзе апынуцца адны дзяўчаты, прычым як самі наезніцы, так і іх чатырохногія спадарожніцы. Дзяўчаты накіраваліся з Палачанаў у конны клуб, што месціцца непадалёк ад Ракава. Мужчыны смелых вершніц вырашылі да месца начлега даехаць машынамі. Затое калі стомленыя дзяўчаты дабраліся да клуба, там іх ужо чакалі і палаткі, і касцёр, і шашлыкі.

Кампанію Алене склалі **Кацярына Саевіч** з Хажова, мінчанкі **Віка Шчуроўская** і праграміст **Юля Рагуновіч**, **Іра Васілеўская** з Маладзечна і 17-гадовая **Уладзіслава Магер**, якая вучыцца ў Варшаве.

Ніякіх канфліктаў у ўдзельніц не ўзнікала, хаця яны і добра стаміліся. Дарогу перад паходам не апрабоўвалі, ішлі адразу па шляху, які ўказваў навігатар. Часам праходзілі праз населеныя пункты: Гарадок, Бакшты, Дварэц.

– Паўсюль нас сустракалі вельмі пазітыўна, – прыгадвае інструктар. – Казалі, што ніколі не бачылі конны паход, заўважалі, што і дзяўчаты, і коні вельмі прыгожыя, давалі ваду, яблычкі. Дапамогу прапаноўвалі ўсе! А якія там маляўнічыя краявіды! У Палачанах раўніна і балоцістасці, а Валожыншчына такая гарыстая – прыгажосць! Бачылі засеянае канюшынай поле, драпежных птушак, і надвор'е было проста шыкоўнае. Назіралі, як працуюць камбайны – а гэта ж выхадныя якраз. У суботу бачылі незаранае поле, а ў нядзелю – ужо ўзаралі, і як толькі паспелі.

Вершніцы падарожнічалі на спартыўных конях, якія патрабуюць асаблівых умоў. Напрыклад, начаваць павінны толькі ў стайні. А самі дзяўчаты размясціліся ў палатках.

Зваротны шлях быў куды прасцей: ведалі, дзе рушыць крокам, а дзе рыссю, дзе спыніцца на прывал. Дарога ў першы дзень заняла 7,5 гадзін, а назад справіліся за шэсць.

Вершніцы адразу, як прыехалі, пагадзіліся, што хочуць паўтарыць падарожжа.

У Палачанах апошні год ладзяць шмат яркіх святаў, напрыклад, Масленіцу. Пасля Купалля таксама зладзілі свята: конныя выступы, містычны квэст, запрасілі японскія барабаны, тэатр агню і фарса, а пасля размясцілі дыскатэку проста на канкуры.

Ад верасня "Палачаны" ладзяць дабрачынныя акцыі, на якія запрашаюць ахвотных.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




СМАЧНА ЕСЦІ

# Тварожныя пончыкі, пасля якіх дзеці папросяць дабаўкі

**Тварог са смятанай любяць не ўсе дзеці, аднак гэты прадукт абавязкова павінны быць у рацыёне. Ілона Сцебурака з Маладзечна знайшла выйсце, як зрабіць страву з тварагу, каб дзеці прасілі дабаўкі.**


Фота vkusnodoma.net

Жанчына пячэ тварожныя пончыкі. Яны хутка гатуюцца і не могуць не падабацца.

**Інгрэдыенты:** *200-250 гр. тварагу, але чым вышэйшая тлустасць, тым смачней, 1 яйка, 3 сталовыя лыжкі цукру, паўчайнай лыжкі разрыхняльніку альбо соды, гашанай воцатам; 100 гр. мукі і крыху на падсыпку, шчыпка солі, ванілін альбо ванільны цукар, алей, цукровая пудра.*

Расціраем тварог з цукрам і яйкам, дадаём разрыхляльнік альбо соду, усыпаем муку і перамешваем аднароднае мяккае цеста. Яно можа крыху ліпнуць да рук.

Дзелім цеста на чатыры часткі, з кожнай раскатваем кілбаску таўшчынёй каля трох сантыметраў. Наразаем на невялічкія кавалачкі і раскатваем у далоні, каб былі круглейшыя.

У каструлі на сярэднім агні разаграваем алей. Яго павінна быць столькі, каб кавалачкі цеста плавалі. Кладзём нарэзанае цеста і смажым да залаціста-карычневага колеру з усіх бакоў. На гэта пойдзе прыкладна 3-4 хвіліны.

Прыгатаваныя пончыкі пасыпаем цукровай пудрай.

**Паводле Ілоны СЦЕБУРАКІ.**

Падзяліцеся рэцэптам фірменнай стравы з чытачамі. Дашліце іх на электронную пошту region-news@rh.by, пажадана з фотаздымкамі.

За свае старанні пераможца зможа пабыць з кампаніяй на дзесяць чалавек у банкетнай зале "Глушэц", якая знаходзіцца ў Маладзечне па Ларына, 2-а.

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 8 | | | 5 | | | 9 |
| | 6 | 3 | | 2 | 8 | | 4 | |
| 7 | | | | | 4 | | | |
| | | | | | | 8 | | |
| 8 | | | 2 | | 9 | | | 1 |
| | | 1 | | | | | | |
| | | | 8 | | | | | 3 |
| | 4 | | 9 | 6 | | 2 | 8 | |
| 2 | | | 3 | | | 1 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.




Фота informburo.kz

Ну як можна без замілавання глядзець на гэтага злобнага трусіка? Кадр з мультфільма "Тайнае жыццё хатніх жывёл".

# Вы нібы пабываеце ў гумарыстычным спа-салоне

КІНО МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі кінатэатр распачынае пракат жахаў "**Не дыхай**". Злодзеі забіраюцца ў дом да самотнага сляпога старога мужчыны. Яны спадзяюцца, што чуткі аб схаваным у доме багацці апынуцца праўдай.

Здавалася б, што можа быць прасцей, чым абрабаваць нямоглага чалавека. Але злодзеі вельмі моцна памыляюцца, і той, каго яны хацелі пакрыўдзіць, сам становіцца крыўдзіцелем. Тайна, якую захоўвае дзядок, значна страшней, чым пенсійныя зберажэнні.

Ад гэтага фільма вам будзе страшна нават дыхаць, таму што "кожны ўздых можа стаць апошнім".

КІНО ВІЛЕЙКІ І МАЛАДЗЕЧНА

Кінатэатр "Мір" і "Радзіма" радуюць гледачоў у апошнія дні лета мегапазітыўнай і адной з самых чаканых сёлетніх прэм'ер – мультфільмам "**Тайнае жыццё хатніх жывёл**".

Пра тое, што вашы гадаванцы не сядзяць у чаканні ля ганка, пакуль гаспадары займаюцца сваімі справамі, а вядуць багатае жыццё, і ідзе гаворка ў карціне.

Гэты мультфільм проста перапоўнены гумарам і жартамі. Гэта самая вясёлая прыгода для ўсёй сям'і, якую вы можаце сабе падараваць на выхадныя. Карцінка неверагодна дакладная і яркая, а персанажы такія, што запомняцца сваёй адметнасцю.

У адрозненні ад сёлетняй анімацыйнай відавочнай прэтэндэнткі на "Оскар" "Зверапаліс", тут не будзе сацыяльных ці ідэйных надбудоў. Задача мультфільма – зрабіць самы расслабляючы масаж вашай весялосці і пачуццю гумару. Пасля кінасенса вы выйдзеце, як з гумарыстычнага спа-салона.

Баланс паміж трылерам, баевіком і камедыяй спрабавалі ўвасобіць стваральнікі расійскага фільма "**Начныя вартаўнікі**".

Ідэя карціны заключаецца ў тым, што калі мы не сутыкаліся з ведьмамі, вампірамі і іншай нечысцю, то толькі дзякуючы выбітнай працы аддзела па нагляду за прадстаўнікамі альтэрнатыўнага жыцця.

Камедыйная драма "**Хлопцы са стваламі**" амерыканскай вытворчасці – толькі для гледачоў ад 18 год. Яна распавядае гісторыю сяброў, якім удалося выбіць у Пентагоне кантракт на 300 мільёнаў долараў на пастаўку зброі.

Пікантнасць фільма ў тым, што ён заснаваны на рэальных падзеях.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце**




**Камент-эксперт**

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

**Забудоўшчыкі мікрараёна "Фестывальны" ў Маладзечне пяць год не могуць засяліцца ў дамы, таму што чакаюць вадаправод**

Электрычнасць ёсць – можна засяляцца. Вось нам на "Лясныя" толькі праз 20 год пасля засялення ваду правялі, каналізацыі і нармальных дарог дагэтуль няма, і жывём! Тым больш цяпер, калі хапае і помпаў, і свідравіну прарубіць за дзень вам могуць для вады. А то ўсе хочуць, каб было ўсё адразу і бясплатна. Ёсць святло – можна жыць! ***Валеры.***

Вядома, цяпер усяго хапае. Але прарубіць свідравіну ведаеце, колькі каштуе? Укласці грошы знойдзецца куды. А тым больш калі раптам нейкім цудам праз годзік-другі ўсё ж пусцяць ваду. А так каналізацыю самі, газ самі... А між тым будуюцца на "Фестывальным" не самыя багатыя людзі горада. Нават у артыкуле напісана – сярэдні клас. Так што ніхто не хоча тут усё адразу і тым больш бясплатна. Участкі выдавалі ў 2011 годзе. Пяць год ужо прайшло, не за гарамі і 20. А святло – так, нават на суседнім пустым полі нікому не патрэбных слупоў хоць адбаўляй! ***Анастасія.***

**Фотасесія каля пажарнай машыны, конкурсы са шлемамі і каскамі – як выратавальнікі адзначалі вяселле ў Маладзечне**

Спадзяюся, мары гэтай чароўнай пары не разаб'юцца аб хвалі быту. ***Таіса.***

**Конкурс "Кулінарны саквояжык": тварожныя пончыкі, пасля якіх дзеці папросяць дабаўкі**

Дзякуй за рэцэпцік. Паспрабавала прыгатаваць пончыкі. Вядома, атрымаліся не такія прыгожыя, як на фотаздымку, але смачненныя! Зрабіла кружочкі, але яны распаўзліся па каструлі – расстроілася. Але пасля дадала мукі, і пончыкі пакруглелі. Другі раз, мяркую, будуць лепшыя:) ***Люба.***

**Дзякуючы адключэнню вады сур'ёзных аварый у Маладзечне не было 10 гадоў. Чаму адключаюць ваду?**

Кожнаму ныціку гэты артыкул у зубы! ***Sh@m@n.***

**У каго ёсць кот, той мяне зразумее:)**

Некалі казалі: хто коцікаў любіць, той і жонку любіць будзе. ***Ірэна.***

**"Рабі аборт", – крычаў раз'юшаны бацька. Гісторыя з жыцця "Свой крыж"**

Шаноўная Марыя Браніславаўна, да глыбіні душы кранаюць вашы расповеды! Дзякуй вам за дабрыню і чулае сэрца да лёсаў іншых людзей. ***Сціплы.***

ГАРАСКОП 25-31 ЖНІЎНЯ


**Авен.** Вы ўкладаеце шмат сіл, каб зарабіць грошы. Аднак гэта не робіць ваш кашалёк таўсцейшым і не прыносіць задавальнене. Не рабіце грошы справай жыцця, і тады жыццё павернецца іншым бокам.


**Цялец.** У жыцці хутка адбудуцца перамены, якія тычацца асабістага жыцця. Будзьце гатовыя, каб годна прыняць новае.


**Блізняты.** Не надзяляйце блізкіх людзей незвычайнымі ўласцівасцямі, і тады вас не напаткае расчараванне. Разумна стаўцеся да сваіх пачуццяў і эмоцый.


**Рак.** Забудзьцеся на парады і настаўленні, жывіце сваім розумам. Дапаможа рашыць усе праблемы і цяжкасці інтуіцыя, навучыцеся даверяць сабе.


**Леў.** Вы актыўна будуеце планы на будучыню, гатовыя да рашучых дзеянняў. Перачакайце, спытайцеся парады ў дасведчаных людзей. Толькі прадуманасць і няспешнасць дапамогуць рэалізаваць усе задумы.


**Дзева.** Смела бярыцеся за любыя справы – вас чакае поспех. Тыдзень прынясе вам упэўненасць у сабе, гэтым самым будзеце ўплываць на іншых людзей.


**Шалі.** Перастаньце мітусіцца і імкнуцца ўсё паспець, гэта проста не магчыма. Калі вы спыніцеся, то адчуеце сябе неймаверна шчаслівым, пачуеце сваё ўнутранае "я".


**Скарпіён.** Плывіце па цячэнні і ўбачыце, што жыццё складаецца найлепшым чынам.


**Стралец.** Асцерагайцеся непрадуманых учынкаў, не гаварыце рэзкіх слоў. Яны могуць прывесці да канфліктаў.


**Казярог.** Ваш дом чакае мір і спакой. Магчыма, у госці завітаюць сябры альбо дальнія сваякі. Яны прынясуць у ваша спакойнае жыццё крыху свята і разнастайнасці.


**Вадалей.** Вас чакае стабільная і радасная атмасфера ў сям'і. Таму абуладкоўвайце быт, праводзьце больш часу з блізкімі. А вось новыя справы пачынаць няварта.


**Рыбы.** Самы час перадыхнуць, адпачыць ад паўсядзённых праблем. Давярэцеся эмоцыям і пачуццям, але не лятайце ў аблоках.

**Аліна ЗОРНАЯ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 27 жніўня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +14 / +23 | | +16 / +26 | | +17 / +27 | | +19 / +28 | |
| | 748 | → 3 | 746 | ↗ 5 | 744 | → 2 | 741 | → 6 |
| Вільня | +14 / +24 | | +16 / +25 | | +16 / +26 | | +18 / +28 | |
| | 756 | ↗ 5 | 753 | ↗ 6 | 752 | ↗ 3 | 748 | ↗ 6 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.13
Захад 20.14
Даўжыня дня 14.01

Усход 0.46
Захад 17.04
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература +3,9 °С у 1984 годзе
Максімальная тэмпература +29,2 °С у 1997 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 41 мм у 2004 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Прыдарожны сервіс, гандаль, нарыхтоўка драўніны. Як працуюць на вёсцы індывідуальныя прадпрымальнікі.**



● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАВЕЧЧЫНЫ



Гэтым летам усім хапала працы. Здымак фотамастака Юрыя ГОРЫДА.

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Бабуля ў вёсцы вырашыла перасунуць шафу. Тры дні выносіла дзядулі мозг, дзень яны сварыліся, дзень не размаўлялі. Пасля яна падклала анучку і пачала цягнуць сама.

Дзед устаў, раўкнуў: "Сыйдзі, спіну надарвеш", паклікаў суседа, і перасунулі шафу. У суботу пабег да суседа з бутэлькай, якую распілі. На наступны дзень пакутаваў ад пахмелля. А пасля зноў надышоў панядзелак, і бабуля вырашыла певесіць паліцу. Прадбачыўшы, што будзе далей, павесіў сам.

Такой крыўды ў вачах дзядулі і бабулі яшчэ не бачыў! Бабуля не сварылася, дзядуля ў суботу не піў. Сусед паглядаў коса, пытаўся, ці хутка я дамоў вярнуся.

Больш у натуральны ход падзей я не ўмешваўся.

***

Статыць натоўп. 80% людзей з натоўпу апранутыя ў джынсы. У паловы з іх айфоны. Каля 80% з іх ездзяць ці ходзяць на працу па раніцах, і працуюць на начальніка да вечара. Больш за палову з іх ненавідзяць панядзелкі, з нецярпеннем чакаюць канца рабочага тыдня і як толькі могуць "адцягваюцца" па пятніцах.

Палова з іх жыве ў крэдыт. Тры чвэрці натоўпу ў шлюбе ці збіраюцца ажаніцца. Больш чым для паловы з іх сінонімам поспеху з'яўляецца наяўнасць шматпакаёвай кватэры, крутой машыны і магчымасць ездзіць за мяжу раз на год. 95% з іх кажуць: "Я не такі, як усе".

***

Пасля наведвання выставы знакамітага мастака журналіст пакінуў у газеце заўвагу: "Выстава магла быць і лепшай".

Пакрыўджаны мастак запатрабаваў абвяржэння.

На наступны дзень у газеце з'явілася заметка журналіста: "Абвяржэнне: выстава магла быць і горшай".

Раз'юшаны мастак запатрабаваў яшчэ адно абвяржэнне.

На трэці дзень у газеце: "Абвяржэнне. Выстава горшай быць не магла".

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ НА ВІЛЕЙШЧЫНЕ

## Чым запомніўся ваш першы Дзень ведаў?



**Арына Клінцэвіч, у дэкрэтным адпачынку:**
– Ад першага верасня добрых успамінаў не засталося. Памятаю толькі, што збіла новыя чаравікі і згубіла цацачнага мядзведзя.



**Святлана Філістовіч, настаўніца:**
– Я ішла ў першы клас, а мая сястра Ліля ў дзясяты. Дзесяцікласнікі павінны былі браць нас за руку і весці ў школу. Я ўсю лінейку чакала, што мяне павядзе сястра. Аднак у яе не атрымалася. Цяпер ужо больш за 20 год я святкую Дзень ведаў як настаўніца.



**Дзмітры Ярашонак, студэнт:**
– Свайго першага дня ў школе не помню зусім. Аднак гэтай восенню ў школу ідзе мая малодшая сястра Маша. Таму ў мяне будзе магчымасць перажыць даўно забытыя ўражанні.



**Валеры Дзік, навучэнец:**
– Першага верасня запомнілася мне тым, што на лінейцы дарылі мячыкі і кніжкі.



**Святлана Спадар, педагог:**
– Першага верасня школьную сукенку мне чамусьці апранулі задам наперад. Каўнерык атрымаўся ззаду. Нават фотаздымак застаўся. Першай настаўніцы не баялася, бо ведала яе раней. Яна вучыла майго старэйшага брата.



**Ніна Рацце, пенсіянерка:**
– У школу я пайшла ў 1946 годзе. Першага дня зусім не памятаю. А так са школы ўзгадваю самаробныя палачкі для лічэння і адчуванне голаду ўвесь час. У школу хадзілі з Располля ў Рэдзькавічы. Гэта шэсць кіламетраў.



**Ігар Мароз, тэхнічны рэдактар:**
– Першага верасня я заблукаў у школе. Пераблытаў паверхі, зайшоў не ў свой клас, убачыў чужых дзяцей і заплакаў.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№35 (1113) 26.08.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 821. Падпісана ў друк у 9.00 25.08.2016.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.